**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 29 (850) 21 ліпеня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
# Вольнае Глыбокае
vglybokaye@tut.by





**У Глыбокім працягваецца Вішнёвы фестываль. Намінацыя “Шчаслівая вішанька”. Узнагарода – БелАграПрамБанку!** *Фота Ул. Скрабатуна.*
Чакаем, упершыню, з нецярпеннем, у нашым горадзе, на заканчэнне фестывалю, выступлення на гэтай сцэне, найпапулярнага беларуская гурта **“Літы Талер”**!

# У Глыбокім зламыснік скраў не толькі чатыры сушоныя шчупакі, але шмат чаго і каштоўнага

**У вытворчасці Глыбоцкага раённага аддзела Следчага камітэта знаходзіцца крымінальная справа, узбуджаная 22.01.2016 па ч.2 арт.205 КК Рэспублікі Беларусь па факце крадзяжу маёмасці з жылога дома № 33 па вул. М.Казея г. Глыбокае.**

**На падставе выкладзенага, СК просіць чытачоў “ВГ”аказаць дапамогу ва ўсталяванні навочных сведкаў дадзенага злачынства, абвестцы пра вышук навочных сведкаў адбытага, асобаў, якім штосьці вядома пра здзейсненае злачынства.**

**Інфармацыя пра злачынства:**

Перыяд часу, у які здзейснена злачынства – 4 студзеня 2016 года – па 22 студзеня 2016 года.

Месца здзяйснення злачынства - г. Глыбокае, вул. М.Казея, дом #33.

**Акалічнасці злачынства – крадзеж маёмасці.**

Таемна выкрадзеная маёмасць шляхам выстаўлення аконнай рамы ў верандзе жылога дома: дрыль “Энхель”, шрупавёрт, электралобзік “Ferm”, электрабрытва “Філіпс”, фотаапарат “ФЭД”, набор нажоў, чатыры сушоныя шчупакі, адна бляшанка шпротаў, адна бляшанка кавы “Gold”, два пачкі чаю, рыбалоўны свідар, жоўта-белы намёт, бензапіла “Штыль-180”, вуглашліфавальная машынка (фартуна) “Энхель”, спінінг са шпулькай фірмы “Мітчал”.

Навочных сведкаў і асобаў, якім вядомыя якія-небудзь акалічнасці здзейсненага злачынства, прашу звяртацца ў Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта па адрасе: г.Глыбокае, вул.Леніна, в.95, каб.№10, ці патэлефанаваць на нумар.: 5-35-90.

Загадзя ўдзячны за супрацоўніцтва, з павагай, **Ю.Е.Суднік,** старэйшы следчы Глыбоцкага РАСК, маёр юстыцыі.



ISSN 2077-8023



## Віцебская вобласць

# Падман за дзяржаўны кошт

■ Чэслаў Якубовіч.

**У сувязі з будаўніцтвам Віцебскай ГЭС шмат перамен, прыемных і не вельмі, чакае гараджан, дачнікаў і жыхароў паблізу абласнога цэнтра.**

Вось і ў гарпасёлку Руба многія рады, што ў іх будзе свой падземны пераход над ажыўленай аўтатрасай, з'явяцца прыгожыя тратуары, ліхтары. Мясцовыя жыхары любуюцца контурамі новага маста з транспартнай развязкай на ўзгорку над ракой Заходняя Дзвіна, які будзе здадзены ў эксплуатацыю ў будучым годзе. А вось спецыялісты абласнога Камітэта дзяржкантролю выявілі на гэтым аб'екце шмат сур'ёзных прыпісак і неабгрунтаваных затрат на 14,3 млрд. рублёў у старым вымярэнні. Матэрыялы праверкі яны ўжо перадалі ў праваахоўныя органы. Самае дзіўнае, што вялікія грошы былі патрачаны ўвогуле на неіснуючыя затраты. Амаль 1 мільярд рублёў заплацілі за 120 дзён фіктыўнай нібыта працы плавучага крана, хоць летась рака настолькі абмялела, што месцамі Дзвіну можна было свабодна перайсці, зняўшы штаны. Генпадрадчык, філіял МБУ-5 ААТ "Мастабуд" аплаціў таксама немалыя сумы за нібыта "вырубку" паўтысячы дрэў вакол дарогі для ўзвядзення па праекце склада. Аднак у гэтым месцы ніякая валка не праводзілася, што ўбачыць кожны прахожы. Спецыялісты выявілі таксама і іншыя факты розных махінацый падчас работ па бетаніраванні апор маста, спісанні расходных матэрыялаў. Яшчэ падчас праверкі заказчык і генпадрадчык кампенсавалі частку незаконных трат. Камітэт дзяржкантролю запатрабаваў таксама правесці карэктыроўку праекту і выключыць з яго пракладку кабеляў сувязі для сістэмы назірання за станам дарожнага палатна, бо яе мае мясцовае ДЭУ.

## Полацкі раён

# Віну прызналі поўнасцю

■ Кастусь Александровіч

**Праца медыка пастаянна звязана з высокай прафесійнай рызыкай, бо тут за дапушчаныя памылкі бывае жорсткая расплата.**

Днямі ў Полацкай цэнтральнай гарадской бальніцы ўрачы здзейснілі сапраўднае цуда, прааперыравалі паспяхова пажылую жанчыну з прабітым сэрцам пры падзенні з вышыні і выратавалі ёй жыццё. А вось супраць двух іх калег яшчэ летась восенню распачалі крымінальную справу за прычыненне сур'ёзных траўм маленькай дзяўчынцы. Тады напрыканцы лета мясцовыя ўрач-хірург і ўрач-рэнтгенолаг спрацавалі нядбайна і двойчы не змаглі выявіць у арганізме 2,5-гадовай палачанкі электрабатарэйку, якую яна праглынула. Толькі калі Жэнечка патрапіла ў кому, яе вярнулі з таго свету сталічныя медыкі. Аднак пасля трох складанейшых аперацый дзіця стала інвалідам. Справу аб ненележным выкананні сваіх прафесійных абавязкаў полацкімі ўрачамі разгледзеў нядаўна Віцебскі абласны суд. Абодва абвінавачваемыя медработнікі поўнасцю прызналі сваю віну і тое, што яны тады дзейнічалі некваліфікавана. Дарэчы, хірург першапачаткова меркаваў, што дзяўчынка нешта праглынула, аднак занадта паспадзяваўся на свайго калегу. Абое не думалі, што гэта траўма можа прывесці да трагічных наступстваў, хоць і бачылі, што стан юнай пацыенткі рэзка пагаршаецца. У выніку суд даў ацэнку іх учынкам. За кепскае выкананне сваіх абавязкаў хірург на 2 гады пазбаўлены права займацца медыцынскай дзейнасцю і заплаціць яшчэ штраф у памеры 3150 новых рублёў. Яго калегу рэнтгенолага пакінулі на працы, але прызначылі яшчэ больш штраф у памеры 105 млн. недэнамінаваных старых рублёў.

## Пастаўскі раён

# Здароўе на свежым паветры

■ Станіслаў Раманчук.

**Клапаціцца аб умацаванні ўласнага здароўя павінен кожны чалавек, а вось, каб як мага болей людзей вялі актыўны і здаровы лад жыцця, такія задачы павінны вырашацца ўжо па месцы жыхарства насельніцтва.**

Невыпадкова і ў Пастаўскім раёне апошнім часам працягласць жыцця вырасла больш чым на 3 гады, бо папулярнасцю сярод гараджан карыстаюцца басейн, трэнажорныя залы на двух ФАКах, фітнес-клубы. Таксама ў райцэнтры з'явіліся зоны, свабодныя ад курэння на цэнтральнай плошчы, у гарпарку, ля ўстаноў культуры і на спартыўных аб'ектах у Паставах. Сёлета ў горадзе такая зона, дзе забаронена курыць, дабавілася і ў буйным, самым маладым мікраёне па вуліцы Юбілейнай, дзе пражывае звыш 6 тысяч чалавек. На пляцоўцы сярод новых шматпавярховак паўстаў сапраўдны спартыўны гарадок. На ім падчас нядаўняга міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік" пад спецыяльным навесам адкрылі камплект вулічных трэнажораў. Іх разам з вялікім камплектам валейбольных мячоў перадала пастаўчанам Прадстаўніцтва НАК Беларусі ў Віцебскай вобласці. Неўзабаве па суседстве адкрылі для ўсіх жадаючых валейбольную пляцоўку. З задавальненнем дарослыя і дзеці змогуць тут пагуляць у баскетбол на іншай пляцоўцы, а зімой яшчэ з'явіцца асветленая стацыянарная хакейная каробка, будзе дзейнічаць пункт пракату спортінвентару з цёплымі раздзявалкамі. Дарэчы, пастаўчане вырашылі не спыняцца на гэтым: у зоне адпачынку Азёркі сярод сосен адкрыўся вяровачны гарадок турысцкага экстрыму.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 21.07.16 | | | | Пятніца 22.07.16 | | | | Субота 23.07.16 | | | | Нядзеля 24.07.16 | | | | Пан. 258.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +17 | +19 | +18 | +13 | +16 | +20 | +19 | +16 | +19 | +23 | +22 | +20 | +20 | +23 | +21 | +18 | +20 | +23 |
| Ціск | 738 | 738 | 740 | 742 | 743 | 744 | 746 | 745 | 745 | 745 | 746 | 746 | 747 | 748 | 749 | 748 | 749 | 749 | 750 |
| Вецер м/сек | 7 Пн | 7 Пн | 6 Пн-У | 3 У | 3 У | 2 Пд-У | 1 У | 1 Пд-З | 1 Пн | 3 Пн | 5 Пн | 4 Пн | 3 Пн | 4 Пн-У | 4 Пн | 3 Пн | 2 Пн-У | 4 Пн-У | 5 Пн-У |
| Вільготнасць | 95 | 94 | 95 | 85 | 97 | 86 | 60 | 85 | 90 | 81 | 78 | 85 | 95 | 92 | 74 | 84 | 95 | 85 | 65 |

# Аб самым надзёным

## ВА ЎМОВАХ ВЫСОКАЙ ІНФЛЯЦЫІ ЗАСТАЕЦЦА ТОЛЬКІ ГАДАЦЬ, КОЛЬКІ ГАДОЎ ПРАЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСКІЯ КАПЕЙКІ?



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Іншая справа, колькі часу пратрымаюцца нашы адчаканеныя за граніцай манеты малога наміналу і ці не напаткае іх у бліжэйшыя гады лёс выйшаўшых у нас з абароту 10, 20, а потым і 50-рублёвых банкнот. Апошнія нічога не значылі і ўвогуле за апошнія чвэрць стагоддзя незалежнасці Беларусі цэны выраслі ў мільёны разоў.**

Сярэдзіна года азнаменавалася сёлета для беларусаў традыцыйнай ужо спёкай, на фоне якой ішло фарміраванне тэрытарыяльных і акруговых выбарчых камісій па правядзенні 11 верасня парламенцкіх выбараў. Для спецыялістаў мелі важнае значэнне вынікі дзейнасці чарговай місіі МВФ, працаваўшай у беларускай сталіцы. Палітолагі рабілі свае прагнозы пасля аглушальнага брытанскага рэферэндуму па выхаду з ЕС, паколькі Вялікабрытанія зараз стала для Беларусі важнейшым гандлёвым партнёрам № 2 пасля Расіі. Аматары спорту па ўсёй краіне з цікавасцю сачылі за яркімі і непрадказальнымі баталіямі на чэмпіянаце Еўропы па футболе на суперсучасных французскіх стадыёнах.

Для большасці ж насельніцтва самай інтрыгуючай падзеяй стала чаканне таго дня, калі кожны з нас убачыць і возьме ў рукі новыя беларускія грошы: купюры, падобныя на еўра, і пасля доўгага перапынку манеты, якія яшчэ трэба будзе недзе насіць у партманэ. З іншага боку нават нейкая гордасць з'явілася, бо цяпер пасля правядзення трэцяй па ліку дэнамінацыі-2016 3 беларускія капейкі сталі каштаваць 1 рускі рубль. Хоць зразумела, што такая аперацыя чыста тэхнічны працэс, але было прыемна, што ў пачатку ліпеня долар каштаваў толькі 2 беларускія рублі.

Я глыбока перакананы, што ўвядзенне новых грошай – патрэбны працэс і ён аблегчыць паўсядзённае жыццё пасля выдалення чатырох нулёў. Безумоўна, на першых парах могуць быць нейкія збоі пры разліках і памыліцца можна хутчэй усяго старэйшым людзям. Аднак з цягам часу прывыкнем, пачнём жыць паіншаму, крыху вернемся ў савецкае мінулае. У параўнанні з эпохай брэжнеўскага застою і татальнага дэфіцыту цяпер беларусы жывуць усё ж лепей, больш заможна, аднак маюць іншыя праблемы. Адна з асноўных, што тая ж дэнамінацыя праводзіцца ва ўмовах рэцэсіі, спаду эканомікі. Да прыкладу, да канца года сёлета спад ВУП Беларусі можа скласці 3 %.

Эксперты прагназуюць, што і ў наступным годзе будуць цяжкасці ў большасці беларускіх дзяржпрадпрыемстваў, а на невялікі эканамічны рост краіна пры паступовым паляпшэнні сітуацыі ў Расіі і на іншых знешніх рынках збыту выйдзе толькі ў 2018 годзе. Іншая справа, колькі часу пратрымаюцца нашы адчаканеныя за граніцай манеты малога наміналу і ці не напаткае іх у бліжэйшыя гады лёс выйшаўшых у нас з абароту 10, 20, а потым і 50-рублёвых банкнот. Апошнія нічога не значылі і ўвогуле за апошнія чвэрць стагоддзя незалежнасці Беларусі цэны выраслі ў мільёны разоў.

Дарэчы, заходнія эксперты з таго ж МВФ у цэлым станоўча адзначылі пачатыя беларускім урадам стабілізацыйныя меры, шэраг хоць і асцярожных структурных рэформ. Галоўнае, што эканоміка не накачвалася, як раней, пустымі грашыма, захоўвалася жорсткая бюджэтна-крэдытная палітыка. Беларусаў і большасць прадпрыемстваў, гаспадарак паступова сталі прывучаць жыць па сродках. Праўда, эканамісты МВФ парэкамендавалі нам праводзіць больш хутка далейшыя рэформы і адначасова стварыць сістэму сацыяльнай падтрымкі насельніцтва, бо могуць абанкроціцца сотні стратных буйных прадпрыемстваў, бударганізацый.

Як вядома, цяпер у абарачэнні з'явілася 8 манет вартасцю 1, 2, 5, 10, 20 і 50 капеек, а таксама важкія 1 і 2 адчаканеныя рублі. Калі ўладам Беларусі ўдасца сёлета і ў наступныя гады справіцца з ростам цэн, а да канца 2020 года выйсці на зацверджаны V Усебеларускім народным сходам параметр інфляцыі да 5 %, то ў саміх манет ёсць будучыня, яны моцна не абясцэняцца. Пры дрэнным развіцці падзей, на жаль, праз 2-3 наступныя гады адна капейка можа быць выведзена з абароту. Пакуль жа не будзем забывацца, што сам механізм замены старых грошай на новыя будзе праводзіцца паступова, на працягу наступных паўгода.

Самае галоўнае цяпер, каб у беларусаў з'явіўся давер да новай нацыянальнай валюты, якая стала падобнай не толькі знешне, але і па сваіх параметрах да польскага злотага з манетамі і літоўскага літа да ўвядзення ў суседзяў еўра. Увогуле цяперашняя палітыка Нацбанка Беларусі дазваляе спадзявацца, што курс новага рубля застанецца дастаткова стабільным, у прыватнасці хаця б да парламенцкіх выбараў. Улады пераканаліся, што ранейшая практыка друкаваць пустыя грошы і напаўпоўваць імі эканоміку вядзе толькі да гіперінфляцыі і фінансавых праблем, моцнага збяднення людзей. Раней умовы для правядзення наспеўшай дэнамінацыі былі не спрыяльныя, зараз сітуацыя памянялася, хоць у нас з'явіўся шэраг супярэчнасцей ва ўзаемадзеяннях з Расіяй.

Красамоўна, што першыя асобы дзяржавы, сярод якіх глава МЗС У. Макей, прама гавораць, што залежнасць ад аднаго партнёра (лічы Крамля) да нічога добрага не прыводзіць. Пераход на новыя грошы засмучае тых нешматлікіх суайчыннікаў, якія ў душы хацелі б карыстацца агульным расійскім рублём. Дарэчы, цяпер надышла пара і для Беларусі для ўступлення ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, членамі якой ужо з'яўляюцца ўсе нашы партнёры па Еўразійскім эканамічным саюзе.

## Дзень за днём

**У Беларусі адбылася дэнамінацыя нацвалюты, у людзей з'явіліся новыя грошы. Заробкі беларусаў вярнуліся на ўзровень 1991 года, у 112 са 118 раёнаў сталі ніжэйшыя за сярэднія па краіне. У пачатку лета знешні дзярждоўг Беларусі вырас яшчэ на 5,1 % - да 13,1 млрд. долараў.** **Павысіліся экспартныя пошліны на нафту і нафтапрадукты. "Транснафта" на трэць скараціла пастаўкі ў Беларусь. Жыхары непрыватызаваных кватэр сталі аплочваць арэндную плату за жыллё. Спецыялістаў адукацыі парадавалі вынікі ЦТ-2016, а 263 абітурыенты атрымалі па 100 балаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Праз 5 гадоў палёту на адлегласць 3 млрд. км спецыялісты НАСА паспяхова вывелі касмічны апарат "Юнона" коштам 1 млрд. $ на арбіту самай вялікай планеты Юпітара.

**Украіна.** Урад краіны паабяцаў адэкватны адказ Расіі, якая неабгрунтавана забараніла транзіт украінскіх тавараў і грузаў у іншыя дзяржавы свету праз расійскую тэрыторыю.

**Польшча.** Міністр абароны А. Мачэрэвіч пацвердзіў, што блок НАТО пераходзіць да палітыкі стрымлівання агрэсіўнай Расіі, якая пагражае міру ва Украіне, Сірыі, на Балтыцы

**Турцыя.** Спецслужбы выявілі, што тэракт у аэрапорце Стамбула, ахвярамі якога сталі 43 чалавекі, арганізавалі трое ісламістаў, грамадзян Расіі, Узбекістана і Кыргістана.

**Афганістан.** У прыгарадзе сталіцы Кабула ў выніку чарговага тэракту талібаў загінула 40 чалавек - выпускнікоў паліцэйскай акадэміі і некалькі грамадзянскіх асоб.

**Ірак.** У выніку двух начных тэрактаў баевікоў "Ісламскай дзяржавы" ў сталіцы Багдадзе загінула звыш 210 чалавек, ісламісты кантралююць ужо 14 % тэрыторыі краіны.

**Англія.** Нечакана былы мэр Лондана, еўраскептык Барыс Джонсан адмовіўся вылучацца на пасаду лідара Кансерватыўнай партыі і на пасаду прэм'ер-міністра краіны.

**Германія.** Віцэ-канцлер З. Габрыэль прапанаваў даваць грамадзянства ЕС усім жадаючым маладым брытанцам, якія падзяляюць агульнаеўрапейскія каштоўнасці.

**Расія.** Пад ціскам Крамля вядомы бізнесмен-ліберал Міхаіл Прохараў вырашыў прадаць усе свае расійскія актывы, уключаючы газету РБК, якая крытыкавала палітыку Пуціна.

**Аргентына.** У рамках узбуджанай справы аб махлярстве паліцыя правяла вышук дакументаў у трох дамах былога прэзідэнта К. Кіршнер і кватэрах яе дарослых дзяцей.

**Чэхія.** Услед за галасаваннем у Англіі прэзідэнт Мілаш Земан заклікаў чэхаў правесці рэферэндум аб членстве краіны ў ЕС і НАТО, ён супраць выхаду з гэтых альянсаў.

**Аўстрыя.** Канстытуцыйны суд краіны ануляраваў вынікі 2-га тура прэзідэнцкіх выбараў і пастанавіў правесці паўторнае галасаванне, у прэзідэнта там – сціплыя паўнамоцтвы.

**Кітай.** Да 10 тысяч чалавек удзельнічалі ў горадзе Лубу на поўдні краіны ў акцыі пратэсту супраць пабудовы завода па спальванні смецця на беразе ракі Сінцзянь.

**ААЭ. Міністэрства замежных спраў** краіны рэкамендавала сваім грамадзянам мужчынам не насіць за граніцай традыцыйныя арабскія доўгія белыя адзенні і галаўныя ўборы, каб не было інцыдэнтаў.

**Аргентына.** Зорка сусветнага футбола, 29-гадовы ігрок "Барселоны" і капітан аргентынцаў Ліанель Месі перадумаў завяршаць кар'еру ў нацыянальнай зборнай.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Любань.** Жыхароў райцэнтра парадавала, што ў жніўні расійскі алігарх М. Гуцэрыеў пачне будаўніцтва чыгуначнай лініі 37 км праз горад да новага калійнага камбіната.

**Мінск.** Палітолаг В. Карбалевіч папярэдзіў, што Крэмль ніколі не прызнае нейтралітэт Беларусі, калі яна пачне выхад з інтэграцыйных структур, Расія прыменіць сілу.

**Астравец.** Віцэ-прэм'ер урада Беларусі У. Сямашка прызнаў, што АЭС будавалі з разлікам на рост эканомікі, а цяпер трэба думаць, куды падзець лішкі электраэнергіі.

**Магілёў.** КДБ Беларусі адпусціў пад падпіску аб нявыездзе бізнесмена, главу групы кампаній "Сервалюкс" Я. Баскіна, які поўнасцю пагасіў прычынены дзяржаве ўрон.

**Мядзель.** Паблізу возера Нарач запрацавала буйнейшая ў Беларусі станцыя сонечных батарэй 5,7 МВт на плошчы 15 гектараў, якую ўзвяла літоўская кампанія Modus energija.

**Крупкі.** У вёсцы Каменка пахавалі 4-х мужчын, а ў райцэнтры – двух супрацоўнікаў МНС, якія трагічна загінулі ад атручэння біягазам у каналізацыйным калодзежы.

**Брэст.** Міліцыя затрымала 54-гадовага жыхара прыгараднай вёскі Шэбрын, які п'яны забіў сякерай сям'ю пажылых суседзяў, забойцу пагражае пакаранне аж да расстрэлу.

**Крычаў.** Следчы камітэт спыніў справу па факце абрушэння гімназіі ў райцэнтры, бо не выявіў вінаватых канкрэтна асоб ва ўзвядзенні няякаснай пабудовы ў 1978 годзе.

**Пухавічы.** Ураганны вецер сарваў шыфер з двух ферм, піларамы, майстэрні, зерняскладa і дыспетчарскай ААТ "Вецярэвічы", у вобласці без святла застаўся 321 населены пункт.

**Капыль.** Пад вечар на ферме ў вёсцы Папоўцы рухнула пад напорам вельмі моцнага ветру 10-метровая воданапорная вежа, пабудаваная 40 гадоў назад, людзі не пацярпелі.

**Магілёў.** Спецыялісты ААТ "Магілёўграмадзянпраект" паскардзіліся на адсутнасць заказаў, затрымка зарплаты склала 48 дзён, людзям выдалі па 650 тыс. (20 % акладу).

**Мінск.** Улады горада выдзелілі прыхаджанам Чырвонага касцёла па іх просьбе 50 тысяч $ са сродкаў ад рэспубліканскага суботніка на рамонт інжынерных сістэм і фасада храма.

**Будслаў.** Спецпасланнік Папы Рымскага кардынал і біскуп Вены К. Шонбарн перадаў беларускім грэкакатолікам рэліквію св. пакутніка Язафата Кунцэвіча, якой 400 гадоў.

**Бабруйск.** У цэнтры горада ўрачыста адкрылі помнік знакамітаму земляку, савецкаму пісьменнікудысідэнту і кінасцэнарысту Э. Сэвелу (Яфіму Драбкіну).

**Мінск.** Прэзідэнт ФІФА Д. Інфанціні прыняў запрашэнне на адкрыццё восенню разам з А. Лукашэнка новага сучаснага тэхнічнага цэнтра футбольных зборных Беларусі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Расельгаснагляд раптоўна прызнаў перамогу беларускіх малочнікаў у барацьбе з расійскімі



■ .TUT.BY

**Расійскія ўнутраныя разборкі малочнікаў з Расельгаснаглядам раптам абярнуліся нечаканым кампліментам беларускім вытворцам, да якіх у апошні час у расійскага ведамства было нямала прэтэнзій. Да сваіх, як высвятлілася, пытанняў яшчэ больш.**

Дыскусія пачалася вакол малацікавай шырокай аўдыторыі тэмы ўкаранення ў Расіі электроннай ветсертыфікацыі. На незадаволенасць расійскіх вытворцаў намеснік кіраўніка Расельгаснагляду Мікалай Уласаў адказаў артыкулам даволі з'едлівага ўтрымання.

Расійскія вытворцы спасылаюцца на тое, што ўводзінамі электроннай ветсертыфікацыі іх ставяць у загадзя невыгодныя эканамічныя ўмовы ў параўнанні з Беларуссю, дзе такой формы ветсертыфікацыі няма: «У Расіі пры падрыхтоўцы да ўводзін ЭВС перапрацоўнікі павінны будуць выдаткаваць мільёны рублёў для наймання новых супрацоўнікаў, тэхнічнага абсталявання, змены сістэмы лагістыкі. Хто з нас будзе эканамічна больш канкурэнтаздольны: беларускія ці расійскія вытворцы?»

Прадстаўнік Расельгаснагляду іранізуе: «Псіхалагічны разлік такой пабудовы «аргументу» складаецца, відавочна, у тым, што цяпер расійская малочная прадукцыя вельмі нават канкурэнтаздольная ў параўнанні з беларускай, і такую пазіцыю не жадалася б страціць».

Але, працягвае ён, пры гэтым расійскія вытворцы патрабуюць ад урада РФ прыняць тэрміновыя меры па выратаванні малочнай галіны, «інакш ужо да восені яна апынецца на грані банкруцтва». Меры прапануюцца вельмі суровыя: забараніць на тэрмін з 4 чэрвеня да 1 снежня ўвоз малочнай прадукцыі з Беларусі. Па меркаванні прадстаўнікоў «Саюзмалака», гэта дапаможа стабілізаваць кошты, якія моцна зваліліся з-за дэмпінгу з боку беларускіх пастаўшчыкоў. «Канкураваць з беларускімі вытворцамі мясцовым не атрымоўваецца: прадукцыя беларусаў высокай якасці і прадаецца па коштах у 1,5-2 разы ніжэй, чым мясцовая», - цытуе Уласаў. «Зразумела, што ў складшыхся эканамічных умовах тое, што вырабляе «Саюзмалако», і так не можа канкураваць з беларускім малочным сектарам ні па якасці, ні па кошце, - піша ён. - І спадзяецца «Саюзмалако» толькі на намаганні дзяржавы па абмежаванні органамі дзяржаўнай улады ўвозу малочнай прадукцыі з Беларусі ў Расію».

«Калі нам атрымаецца пераадолець супраціў «Саюзмалако», а я мяркую - атрымаецца, і рэалізаваць пілотныя праекты на якіх-небудзь малакаперапрацоўчых заводах, то мы аспрэчым гэты аргумент фактамі. А пакуль не атрымалася, прызнаём гэты аргумент напалову: на канкурэнцыю з беларускімі калегамі, вядома ж, не паўплывае - яна і так прайграна, але дадатковыя выдаткі ў малакаперапрацоўшчыкаў будуць, чаго мы ніколі і не спрабавалі аспрэчыць», - рэзюмуе ён.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Гарадок.** У суд паступіла крымінальная справа трох былых службовых асоб, якія купілі службовае жыллё ва ўласнасць у абыход закона, на іх маёмасць наклалі арышт.

**Полацк.** Буйнымі штрафамі пакараў суд двух урачоў гарадской бальніцы, па віне якіх малая дзяўчынка стала інвалідам, а хірурга яшчэ пазбавілі права на 2 гады займацца медыцынай.

**Браслаў.** ЕС выдзеліў транш у суме 3,5 мільёна еўра для мадэрнізацыі пункта пропуску "Урбаны" на граніцы з Латвіяй з абсталяваннем рэнтгенаўскага комплексу дагляду.

**Орша.** Услед за ўведзеным у горадзе арэндным домам у гарпасёлку Балбасава ў 3-м квартале дабавіцца яшчэ адзін на 60 кватэр, яго пачалі ўзводзіць сёлета ў студзені.

**Лепель.** Мясцовы хлебазавод пачаў выпуск навінак булачак і рагалікаў з тварагом "Сюрпрыз" і "Немаўлятка", перад імі распрацавалі тоставы хлеб "Дняпроўскі".

**Дуброўна.** Пад вечар ля вёскі Арловічы падчас купання групы дзяцей на рацэ Днепр утапіўся 9-гадовы хлопчык, які нырнуў і яго падхапіла моцнае цячэнне.

**Віцебск.** Маладога 24-гадовага забойцу летась ноччу мясцовага мастака Д. Хаміцэвіча і ягонай сяброўкі Вярхоўны суд Беларусі пакараў пажыццёвым зняволеннем.

**Мёры.** Днём у спёку ля вёскі Брушкі загарэўся ў полі кормаўборачны камбайн райагрaсервіса, пажар патушылі, але для далейшай эксплуатацыі тэхніка ўжо больш не прыгодная.

**Ушачы.** Усяго пару дзён не дажыла да свайго 90-годдзя родная сястра В. Быкава Валянціна, яна памерла ў абласной бальніцы, куды яе даставілі пасля нападу рабаўніка.

**Полацк.** Услед за гарадам занальны вузел электрасувязі падключыў да сучасных ліній ВАЛС з высокахуткасным інтэрнэтам 3 сельскія АТС у Мацюшах, Карпеках і Кушліках.

**Расоны.** На тэрыторыі раёна на фоне вымірання вёсак сталі пражываць каля 3-х тысяч дачнікаў, якія выкупілі 1350 дамоў, апрацоўваюць 230 гектараў зямлі, трымаюць 36 коз.

**Глыбокае.** У цэнтры традыцыйнай культуры і народнай творчасці адкрылі выставу "Фарбы роднай зямлі", дэлегацыя раёна прыняла ўдзел у свяце "Дзень вышыванкі".

**Віцебск.** Вучоныя НАН Беларусі па выніках маніторынгу лясного фонду вобласці спрагназавалі сёлета на Віцебшчыне найбольшы ў краіне ўраджай ягад і грыбоў.

**Паставы.** Супраць двух гараджан распачалі крымінальную справу за незаконны вылаў трымя сеткамі 35 кг рыбы на возеры Янкішкі, якую яны спрабавалі схаваць у вадзе.

**Наваполацк.** Суд абавязаў РУП "Віцебскэнерга" выплаціць па 20 тысяч рублёў (200 мільёнаў да дэнамінацыі) сем'ям трагічна загінуўшых рабочых-рамонтнікаў мясцовай ЦЭЦ.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

*Запрашаем 23 ліпеня на свята ў Лучай! Будзе вельмі цікава!*

# ФЭСТ У ГОНАР СВЯТОЙ ГАННЫ і 250-ГОДДЗЕ ЗАСНАВАННЯ ЛУЧАЙСКАЙ СВЯТЫНІ



**План урачыстасці: 23 ліпеня, субота**

**14-00.** Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту;

**15-00.** Урачыстая святая Імша (хор з парафіі г. Глыбокае).

Узначаліць літургію дапаможны біскуп Аляксандр ЯШЭЎСКІ SDB з Магілёва.

**16-50.** Асвячэнне аўтатранспарту.

**17-00.** Пачатак канцэрта.

Вядучыя: Таццяна ЯКУШАВА і Валянціна АЛЬШАНСКАЯ.

ЗАПРОШАНЫЯ НА СВЯТА: Беларускія дудары (Віталь ВОРАНАЎ і іншыя), Марына ВЯРЭНІЧ, гурт РЭХА, Лявон ВОЛЬСКІ і Павел АРАКЕЛЯН, Валянціна АЛЬШАНСКАЯ, Дмітрый КОРСАК і Андрэй ЖУКОЎСКІ, Алег СЯМЁНАЎ, гурт ФЕРЦІНКА (г.Полацк), Аляксей ГРОСС.

**23-00.** Фаершоў.

**23-15.** Заканчэнне з феерверкам у 250 залпаў.

✝ між блокамі канцэрта – выступы дзяцей і моладзі з ЛУЧАЯ і ВАРАПАЕВА.

*Даслана luchai@tut.by*

**У горадзе Глыбокае Віцебскай вобласці зафіксаваны першы факт падробкі грошай новага ўзору, уведзеных у зварот з 1 ліпеня. У адным з прадуктовых крамаў пакупнік адплаціў фальшывай купюрай у 20 рублёў. Прадавец прыняла яе, але неўзабаве патэлефанавала ў міліцыю і паведаміла, што банкнота ёй здаецца падробленай.**

## У Глыбокім ужо навучыліся падрабляць новыя грошы! Праўда, не вельмі паспяхова!

Супрацоўнікі праваахоўных органаў праверылі купюру і пацвердзілі здагадкі прадаўца. На ёй адсутнічалі элементы абароны, вадзяныя знакі, у некаторых месцах фарба расплылася, а колераперадача была іншая. На працягу сутак яны ўсталявалі асобу пакупніка, які адплаціў за пакупкі фальшыўкай. Ім стаўся беспрацоўны 48-гадовы мясцовы жыхар, які ў сваю чаргу атрымаў падробленую банкноту ад 46-гадовага таварыша, у мінулым неаднаразова асуджанага.

Падчас далейшага разгляду міліцыянеры, нягледзячы на тое, што мужчыны спрабавалі ўтаіць, якім чынам да іх патрапіла падробка, вылічылі фальшываманетчыка. Падробленую купюру вырабіў 31-гадовы мясцовы прадпрымальнік, які займаецца вырабам рэкламнай прадукцыі. Мужчына проста адсканаваў сапраўдную купюру і раздрукаваў малюнак на струменевым прынтары. У МУС адзначылі, што мужчына на допыце заявіў, што збіраўся выкарыстоўваць раздрукаваныя купюры ў якасці сувеніраў.

Збытчыка фальшывай банкноты затрымалі. Яму пагражае да пятнаццаці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

*mvd.gov.by*




## Дзе найвыгадней весці дробны бізнес? — топ-10 раёнаў з найбольшай рэнтабельнасцю

У статыстычным бюлетэні «Малое і сярэдняе прадпрымальніцтва ў Беларусі», апублікаваным Белстатам, у адну табліцу зведзеная рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі, тавараў і паслуг мікра-, малых і сярэдніх арганізацый.

**Топ-10 раёнаў з найбольшай рэнтабельнасцю бізнесу**

Лагойскі — 30,1%
Астравецкі — 23,4%
Магілёўскі — 18,1%
Бярозаўскі — 17,4%
Іўеўскі — 16,5%
Лунінецкі — 14,6%
Горацкі — 12,9%
Аршанскі — 12,6%
Талачынскі — 11,7%
Барысаўскі — 11,6%

**Топ-10 раёнаў з найменшай рэнтабельнасцю бізнесу**

Гарадоцкі — -19,6%
Лоеўскі — -12,6%
Хоцімскі — -8,3%
Свіслацкі — -8,1%
**Пастаўскі** — -7,3%
Лёзненскі — -6,7%
Мядзельскі — -6,3%
Расонскі — -5,2%
Крупскі — -5,1%
Брагінскі — -4,6%

*Паводле Белстат.*

## Дзень беларускага пісьменства ў 2017 годзе прыме Полацк

Дзень беларускага пісьменства ў 2017 годзе прыме Полацк, паведаміла сёння журналістам віцэ-прэм'ер Наталля Качанава перад пасяджэннем Міжведамаснага экспертна-каардынацыйнага савета па турызме пры Савеце Міністраў, перадае карэспандэнт БелТА. *"У гэтым годзе маштабнае свята прыме Рагачоў. На апошнім пасяджэнні аргкамітэта па падрыхтоўцы свята было прынята рашэнне, што наступнай сталіцай Дня пісьменства стане Полацк, нягледзячы на тое, што тут праходзіла свята ўжо не раз. Сімвалічна, што якраз у 2017 годзе будзе адзначацца і год 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, і ў Полацку нарадзіўся Францыск Скарына"*, - сказала Наталля Качанава. На думку віцэ-прэм'ера, Полацк павінен стаць турыстычнай Мекай - для гэтага ёсць усё неабходнае. Пры гэтым Наталля Качанава звярнула ўвагу, што не ўсе аб'екты, цікавыя для турыстаў, задзейнічаны ў поўнай меры. *"Усё, што трэба для развіцця турызму, у Полацку ёсць. Гэта вельмі важны з гістарычнага пункту гледжання горад, тут знаходзяцца славутасці, якія могуць прыцягнуць вялікую колькасць турыстаў"*, - лічыць яна. Дзень беларускага пісьменства - нацыянальнае свята, якое адзначаецца штогод у першую нядзелю верасня. Упершыню ён прайшоў у 1994 годзе ў Полацку. Сталіцамі Дня пісьменства становяцца гістарычныя і культурныя цэнтры, з якімі звязана жыццё вядомых дзеячаў краіны.

*БелТА.*

**У Пастаўскім раёне выяўлены факт незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці ў сферы перавозкі пасажыраў таксі. Нелегала атрымалася выявіць, вывучаючы аб'явы пра падобныя паслугі ў інтэрнэце.**

## У Пастаўскім раёне падатковая злавіла нелегальнага таксіста

Падчас правядзення кантрольных мерапрыемстваў на аўтамабільнай дарозе «Браслаў-Паставы-Мядзел» была ўсталявана перавозка парушальнікам пасажыраў па маршруце Паставы-Мінск. За паслугу перавозчык запытаў узнагароду як у грашовай форме – у суме 6 рублёў, так і натурай – запраўка аўтамабіля палівам, паведамляе прэс-цэнтр інспекцыі МНС па Віцебскай вобласці.

Па выніках праверкі фізічнай асобе налічаны адзіны падатак з ужываннем каэфіцыента 5, што склала 520 рублёў, а таксама вынесена папярэджанне.

*ННВ*

## Мінспорту: цэны на гасцініцы трэба зніжаць

Цэны на гасцініцы трэба зніжаць, заявіў намеснік міністра спорту і турызму Міхаіл Партны на пасяджэнні Міжведамаснага экспертна-каардынацыйнага савета па турызме пры Саўміне, перадае карэспандэнт БелТА. Паводле інфармацыі Міхаіла Партнога, загрузка гасцініц сёння складае 38,3 працэнта. "Неабходна павялічваць колькасць мерапрыемстваў і працаваць з цэнамі", - лічыць ён. Намеснік міністра звярнуў увагу, што гасцінічныя паслугі ў Беларусі часта каштуюць даражэй, чым у суседніх краінах. Міхаіл Партны таксама прапанаваў паскорыць прапрацоўку пытання з выдачай іншаземным грамадзянам электронных віз у Беларусь. Акрамя таго, Міністэрства спорту і турызму прапануе замацаваць на заканадаўчым узроўні дадатковыя меры для падтрымкі ўязнога і ўнутранага турызму. Намеснік прэм'ер-міністра Наталля Качанава адзначыла, што ўрад гатовы вывучыць канкрэтныя прапановы, якія будуць уносіцца Мінспорту.

*БелТА.*

## Шаркоўшчынскі раён, пацярпелы ад тарнада, наведаў старшыня Камітэта дзяржкантролю

**15 ліпеня старшыня Камітэта дзяржкантролю Леанід Анфімаў праінспектаваў ход прац па ліквідацыі наступстваў моцнага ветра ў Шаркоўшчынскім раёне, праз які прайшоў ураган.**

Тарнада і шквалісты вецер 11 ліпеня пашкодзілі ў раёне 180 жылых дамоў, за медыцынскай дапамогай звярнуліся 14 чалавек. Асабліва моцна пацярпела Шаркоўшчына і найбліжэйшыя вёскі.

Падчас візіту Анфімаў выказаў надзею, што рамонт жылля будзе скончаны праз тыдзень. *«На працягу пяці дзён усе працы па добраўпарадкаванні жылога фонду, яго рамонту будуць выкананы»*, — сказаў ён.

Па словах кіраўніка КДК, раённыя ўлады хутка разгарнулі ўсе неабходныя працы, мабілізавалі матэрыяльныя і людскія рэсурсы. А прыклад Шаркоўшчыны доказвае гатоўнасць уладаў да любых прыродных стыхій: *«Улада яшчэ раз пацвердзіла, што можа рэагаваць на любыя катаклізмы»*.

Вялікую дапамогу ў ліквідацыі наступстваў урагану аказваюць суседнія раёны, абласныя ўлады, МНС. На аднаўленчых працах быў задзейнічаны каля 400 чалавек.

Таксама Леанід Анфімаў звярнуў увагу, што ў гэтыя дні ў Віцебску праходзіць фестываль «Славянскі базар», але правядзенне такога маштабнага мерапрыемства міжнароднага ўзроўню не адсунула на задні план праблемы па ліквідацыі наступстваў стыхіі, паведамляе сайт КДК.

*ННВ.*

# У Глыбокім у чацвёрты раз праходзіць Вішнёвы фестываль



Вольга Панчанка з Магілёва парадавала глыбачан і гасцей горада цудоўнай ігрой на скрыпцы.

**У панядзелак 18 ліпеня ў Глыбокім ужо ў чацвёрты раз адкрыўся Вішнёвы фестываль. Ён будзе праходзіць да суботы 23 ліпеня.**

■ **Зміцер Лупач,** *тэкст і фота*

Адкрыў мерапрыемства кіраўнік Глыбоцкага раёна Алег Морхат.

На адкрыцці сабралася шмат глыбачан і гасцей горада. Адметнасцю адкрыцця свята ў гэтым годзе стала тое, што першы дзень быў прысвечаны дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў Глыбоччыны.

На адкрыцці фестывалю Ганна Шакола прэзентавала дзве новыя песні "Вішні цвітуць" і "Вішанькі-чараўніцы". Словы да гэтых песень напісала Людміла Ардынская, якая нарадзілася ў Глыбокім, а зараз жыве ў вёсцы Радзюкі Шаркаўшчынскага раёна. Спадарыня Людміла з'яўляецца сталым аўтарам нашай газеты. Свае вершы яна напісала адмыслова для Вішнёвага фестывалю.

А яшчэ прыемнай асаблівасцю першага дня фестывалю стала тое, што праходзіў ён на беларускай мове.

Вішні ў Глыбокім распаўсюдзіліся дзякуючы аграному Баляславу Лапыру, які працаваў у Глыбокім перад вайной. Спадар Баляслаў быў не толькі выдатным аграномам, але і вялікім прыхільнікам беларушчыны, за што цярпеў ад польскіх уладаў. Напэўна ўжо прыйшоў час, каб неяк ушанаваць яго памяць у нашым горадзе.

З гэтым згодзен і былы кіраўнік аддзела ідэалогіі Міхаіл Чарапкоўскі: "Я думаю, што на яго былой сядзібе варта ўсталяваць Памятны знак, на якім напісаць, што тут працаваў выдатны агроном, вучоны і краязнаўца".



Свята распачалося з ансамбля глыбоцкіх барабаншчыц, што ўжо стала добрай традыцыяй у горадзе.



Кіраўнік раёна Алег Морхат уручыў прызы і падарункі самым маленькім, але таленавітым глыбачанкам. Яны ўдзельнічалі ў конкурсе малюнкаў да Вішнёвага фестывалю.

Скрыпачка Вольга Панчанка, якая прыехала на свята з Магілёва, уразіла гледачоў віртуознай ігрой.

Прыемна, што ўраджэнцы Глыбоччыны любяць свой край і, нават пажыўшы ў іншых гарадах, імкнуцца вярнуцца на сваю малую радзіму. Кіраўнік ветэранскай арганізацыі воінаў-афганцаў Антон Ждановіч, які пражыў 15 гадоў у Віцебску, паведаміў, што вельмі ганарыцца Глыбокім і рады таму, што вяртаецца сюды на пастаяннае месца жыхарства.

Наперадзе нас чакае амаль цэлы тыдзень святочных мерапрыемстваў. Запрашаем глыбачан і гасцей горада наведваць фестывальныя пляцоўкі.

# Пра ўплыў электрамагнітнага выпраменьвання на арганізм чалавека



**Крыніцай электрамагнітнага выпраменьвання з'яўляецца любы прыбор, які працуе на электрычным току: ЗВЧ-печы, тэлевізары, халадзільнікі, кававаркі, фены, мабільныя і радыётэлефоны, камп'ютары, электраправодка і інш.**

■ **Т. Кадушкевіч,**
*загадчыца лабараторным аддзелам Глыбоцкай РЦГЭ*

Да ўплыву электрамагнітнага выпраменьвання на арганізм чалавека асабліва адчувальныя: імунная, нервовая, палавая і эндакрынная сістэмы. Пры працяглым уздзеянні электрамагнітнага выпраменьвання ў чалавека пагаршаецца памяць, зніжаецца імунітэт, парушацца абменныя працэсы. З'яўляюцца характэрныя растройствы як стамляльнасць, зніжэнне працаздольнасці, парушэнне сну, раздражняльнасць. Могуць узнікаць дрыжэнне канечнасцяў, непрытомныя станы.

**Каб знізіць уплыў электрамагнітных выпраменьванняў у побыце на арганізм чалавека неабходна выконваць наступныя правілы тэхнікі бяспекі.**

1 Не ўключайце адразу ўсю бытавую тэхніку. Выкарыстоўвайце, па магчымасці, бытавыя прыборы паасобна. Напрыклад, калі пыласос, выключыце тэлевізар. Калі вы вымушаныя ўключыць некалькі прыбораў выпраменьваючых электрамагнітнае выпраменьванне, то паспрабуйце паменш знаходзіцца ў гэтым памяшканні.

2 Калі купляеце бытавую тэхніку, трэба праверыць ці адпавядае яна ўсім патрабаванням бяспекі санітарных нормаў.

3 Лепш, калі бытавыя прыборы будуць аснашчаны аўтаматычным кіраваннем на адлегласці (пультамі).

4 Адлегласць ад пастаяннага месцазнаходжання чалавека да бытавога прыбора павінна быць не менш за 1,5 метра. Падчас працы мікрахвалевай печы, не стойце ля яе тарца, а лепш адыдзіце на пару метраў.

5 Найбольш бяспечнае знаходжанне побач з камп'ютарам насупраць манітора. Паменш знаходзіцеся збоку і ззаду камп'ютара. Адлегласць ад манітора лепш захоўваць у 50-70 см.

6 Ноччу абавязкова выключайце камп'ютар з сеткі, асабліва гэта тычыцца пакояў, дзе вы спіце.

7 Калі вы выбіраеце месца для ложка ў пакоі, абавязкова праверце, ці не знаходзіцца за сцяной побач камп'ютар або тэлевізар. Сцены не абараняюць ад магнітнага поля.

8 Тэлевізар важна глядзець на адлегласці не бліжэй чым 2-3 м, і вядома, не злоўжываць часам прагляду. Не выкарыстоўвайце ўключаны тэлевізар у якасці "фону" цэлы дзень.

9 Не варта ў падгалоўе ложказмяшчацьразеткі з пастаянна ўключанымі ў іх бра.

10 Не варта выкарыстоўваць сотавы тэлефон у якасці будзільніка і класці яго непадалёк падчас сну, лепш адключыце яго ці трымайце далей.

11 Насіце мабільны тэлефон лепш у сумцы, а не ў кішэні.

Мабільнікі небяспечныя не высокай магутнасцю выпраменьвання, а блізкасцю да цела чалавека. Трымаючы тэлефон ля вуха, мы негатыўна дзейнічаем на галаўны мозг, носячы яго ў кішэні кашулі – на сэрца, у кішэні штаноў – на рэпрадуктыўную функцыю і г.д.

12 Праветрывайце часцей пакоі, у якіх знаходзіцца бытавая тэхніка. У памяшканнях, дзе працуюць электрамагнітныя прыборы, паветра насычанае дадатнымі іонамі. Знаходжанне ў такой атмасферы, нават непрацяглы час з'яўляецца прычынай галаўных боляў, заторможаннасці, санлівасці, галавакружэнняў.

# Бяспечная ўборка ўраджаю. Пра што важна памятаць




**У работнікаў сельскай гаспадаркі хутка наступіць напружаная і гарачая пара – уборка ўраджаю збожжавых. Працы ў асноўным праводзяцца на адкрытым паветры, паблізу ліній электраперадачы, на зернесушыльных комплексах і іншых аб'ектах. Менавіта ў гэтых месцах існуе рэальная пагроза прычынення шкоды здароўю і жыццю работнікаў.**

■ **А. Крывёнак,**
*іздзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

Смяротныя няшчасныя выпадкі, звязаныя з паражэннем людзей электрычным токам пры правядзенні сельскагаспадарчых работ, адбываюцца амаль штогод. Хачу нагадаць чарговы раз, што кіраўнікам сельскагаспадарчых арганізацый да першарадных задачаў трэба аднесці мерапрыемствы, накіраваныя на зніжэнне траўматызму, у тым ліку і ад электрычнасці.

У кожнай гаспадарцы павінна быць прызначаная асоба, адказная за электрагаспадарку і электрабяспеку. Неабходна забяспечыць персанал, які абслугоўвае электраўстаноўкі, выпрабаванымі ахоўнымі сродкамі і інструментам, правесці інструктажы па электрабяспецы з работнікамі збожжатакоў і механізатарамі высокагабарытных машын і механізмаў, не дапускаць да працы на электраабсталяванні асоб, якія не прайшлі праверку ведаў па ахове працы пры працы на электраўстаноўках.

Да пачатку работ у электраўстаноўках павінны быць праведзены работы па чыстцы, рамонце, тэхнічным абслугоўванні абсталявання, праверaны зазямляльныя прылады, выкананы электрафізічныя вымярэнні, нанесеныя знакі электрабяспекі, надпісы «вкл.» І «выкл.» каля камутацыйных апаратаў, а таксама паказана іх прыналежнасць да таго ці іншага механізму.

**Каб не здарылася бяды, перш за ўсё, кожны работнік павінен выконваць элементарныя правілы электрабяспекі:**

■ не прыступаць да працы на электраабсталяванні пры наяўнасці пашкоджання ізаляцыі правадоў, кабеляў, адсутнасці агародж адкрытых токаводных частак абсталявання, які знаходзяцца пад напружаннем;

■ не пераязджаць праз ляжачы на зямлі кабель, не кідаць на яго грузы;

■ не праводзіць рамонт падлучаных да электрычнай сеткі машын і механізмаў;

■ пры перамяшчэнні перасоўных машын для работы ў новым месцы адключаць сілкавальны кабель;

■ пры перамяшчэнні машын на электрычным ходзе неабходна сачыць за даўжынёй сілкавальнага кабеля;

■ працуючы на збожжатаках паблізу электрыфікаваных механізмаў абавязкова апранаць абутак;

■ не набліжацца да абарваных правадоў на адлегласць менш за 8-10 метраў;

■ не адчыняць размеркавальныя і камутацыйныя скрыні, шафы;

■ не дакранацца да апораў, не залазіць на іх;

■ не пранікаць за агароджы трансфарматарных падстанцый;

■ пры працы сельскагаспадарчых машын у ахоўнай зоне ліній электраперадачы нельга знаходзіцца па-за кабінай і выконваць рамонтна-прафілактычныя працы;

■ рух машын пад правадамі паветранай лініі электраперадачы дапускаецца толькі ў транспартным становішчы, у месцы найменшага правісання правадоў, бліжэй да апоры і пад наглядам адказнай асобы за бяспечную вытворчасць прац, маршрут перамяшчэння павінен быць паказаны ў пуцявым лісце.

Калі вы апынуліся ў зоне небяспечнага крокавага напружання, пры абрыве провада лініі электраперадачы, то аддаляцца ад яе трэба скачкамі дзвюма нагамі або крокамі без адрыву ступняў ад зямлі і без стварэння разрыву паміж ступнямі (пятка нагі, не адрываючыся ад зямлі, прыстаўляецца да наска іншай нагі) пакінуць небяспечную зону на адлегласць не менш, чым 8-10 метраў.

Такія ж дзеянні неабходна прымаць і пры падзенні провада на аўтатэхніку. Кабіну варта пакідаць, саскочыўшы на зямлю абедзвюма нагамі, ні ў якім разе не дакранаючыся корпуса машыны, аддаляцца ад яе вышэйапісаным спосабам.

**Пры пашкоджанні паветраных ліній, абрыве правадоў і т. П. Неабходна тэрмінова паведаміць дзяжурнаму персаналу электрычных сетак на тэлефон 8 (02156) 2-62-41,144. Патрабуйце ад службовых асоб правільнай арганізацыі работ у электраўстаноўках і ў ахоўных зонах ліній электраперадач. Памятайце! Толькі правільнае абыходжанне з электрычнай энергіяй гарантуе бяспеку жыцця людзей.**




# Узровень пажарнай бяспекі праверaных суб'ектаў

**У ліпені інспекцыяй нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях праведзены праверкі ўзроўню пажарнай бяспекі суб'ектаў.**

За выяўленыя парушэнні на дадзеных суб'ектах да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты іх кіраўнікі і службовыя асобы.

Так пры праверцы **СПФ "Мнюта" ААТ "Глыбоцкі МКК"** высветлілася, што:

не ўсе будынкі і збудаванні прадпрыемства забяспечаны першаснымі сродкамі пажаратушэння згодна нормаў Палажэння; аб'екты гаспадаркі не абсталяваны ўстаноўкамі пажарнай аўтаматыкі; пажарныя вадаёмы не пазначаныя ў адпаведнасці з патрабаваннямі; навучанне работнікаў мерам пажарнай бяспекі арганізавана не ў поўным аб'ёме: адсутнічае стэнд з інфармацыяй аб пажарнай бяспецы і бяспецы жыццядзейнасці, на тэрыторыі прадпрыемства дапускаецца курэнне ў неўстаноўленых месцах, не арганізавана навучанне работнікаў па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму; на прадпрыемстве створаны пажарна-тэхнічная камісія і добраахвотная пажарная дружына, аднак іх дзейнасць не адпавядае патрабаванням.

**Установа адукацыі "Глыбоцкі дзяржаўны прафесійны ліцэй"** –

у будынку галоўнага вучэбнага корпуса дзверы, якія аддзяляюць лесвічныя клеткі ад калідора, не абсталяваны ўшчыльненнямі ў створках; вышыня дзвярэй эвакуацыйнага выхаду ў навучальным корпусе №2 не адпавядае патрабаванням; у будынку кароўніка ў в. Прыпернае не забяспечваецца хуткае вызваленне жывёл пры пажары; будынкі і збудаванні ў в. Чачалі не ў поўным аб'ёме забяспечаны першаснымі сродкамі пажаратушэння; не ўсе работнікі аб'екта, задзейнічаныя ў рэалізацыі плана эвакуацыі, забяспечаны самавыратавальнікамі.

**Будаўнічая пляцоўка "Будаўніцтва і мадэрнізацыя цэха па вытворчасці сухой сыроваткі і сухіх малочных прадуктаў у ААТ "Глыбоцкі МКК"** –

няякасна праведзена навучанне работнікаў па пытаннях пажарнай бяспекі; на ўездзе на тэрыторыю будаўнічай пляцоўкі адсутнічае схема з нанесенымі часовымі будынкамі і збудаваннямі, а таксама тымі, што будуюцца, заездамі, пажарнымі праездамі, крыніцамі супрацьпажарнага водазабеспячэння, тэхнічнымі сродкамі супрацьпажарнай абароны; будаўнічая пляцоўка не забяспечана першаснымі сродкамі пажаратушэння згодна нормаў; на будаўнічай пляцоўцы не выконваецца супрацьпажарны рэжым; частка вагонбытовак не забяспечаная працаздольнымі аўтаномнымі пажарнымі апавяшчальнікамі.

*Інспекцыя па пажарным надзоры і прафілактыцы Глыбоцкага РАНС*




## МНС інфармуе
**на 19.07.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 389;
Гібель людзей – 44, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 12;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

